© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020




Настаўніца беларускай мовы Ірына Федарук з вучнямі трэцяга і чацвертага класаў гміннай школы ў Бельску.

Фота Я. Чэрнякевіч.

№ 37 (1205) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 14.IX.1980 г.

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

**Нашыя легенды і паданні**

# ГРАЙ, ГРАЙ ІГРАЧУ!..

Гэтай легенды, магчыма, і не было б, калі б колішні нейкі музыка-скрыпач з Войшкаў на развітанне з маладой парай не асушыў лішняй кварты. Вяселле гулялі ў карчме, што некалі стаяла на левым беразе ракі Нарвы, непадалёку затокі Калінаўка, якраз у тым самым месцы, дзе цяпер красуецца заезны дом „Заглоба“. І падаўся тады скрыпач знаёмаю дарогаю праз усе тры масты цераз Нарву ў сваё сяло.

Ідзе-брыдзе ён так сабе: то падспявае крыху, то па струнах смыкам урэжа — лёгка на сэрцы чалавеку, што і куды! Але ж адкульні вазьміся на гасцінцы ладны паніч, перапыняе ён скрыпача ды і кажа:

— Надта ж звітна ў цябе смык па струнах гуляе, чалавеча. Зайграй і для мяне што-небудзь.

А той і прасіць доўга не даўся: як урэзаў польку-трасуху, то не толькі ў паніча ногі самі захадзілі, бы ў жарэбчыка на прывязі, але нават зоркі на чорным небе заскакалі ды ў розныя Вужы і Курачкі збягацца пачалі. Тут паніч і стаў прасіць:

— Граеш ты хвацка. Цаны тваёй ігры няма. Пайграеш нам у палацы на балі — шчырым золатам абсыплем.

Згалеламу войшкаўцу такога двойчы паўтараць не трэба было. Паніч размашыста пакрочыў некуды, а музыка следам за ім подбежкам падрыпаў.

Прыходзяць яны ў шыкарны палац. Поўна там стройных панічоў ды разадзетых паненак прыгожых, а ўсё навокал аж зіхаціць ад крышталяў ды мармураў. Як толькі ў палацы звочылі музыку, паненкі адразу пасадзілі яго на самае ганаровае месца, а панічы падскакваюць ды кожны залатую папяросніцу яму пад нос тыцкае і пахучымі цыгаркамі частуе.

Курыць войшкавец дарагія цыгаркі ды такія вальчыкі і кадрылі смыкам са струн высцёбвае, што аж свечкі ў срэбных кандэлябрах вянуць. Панічы ж тыя з паненкамі, як віхор у лютаўскую завейку, у няспынным карагодзе круцяцца.





© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

Граў так музыка, граў ды і прытаміўся. А як прытаміўся, то і падумаў: „Да танцаў, то яны ўсе ахвочыя, але як жа ж з абяцанаю платаю будзе?“ А падумаўшы так, узяў і спыніў сваё гранне.

Падбеглі да яго паненкі і панічы і давай упрошваць:

— Грай, шаноўны, грай! Ты так дзіўна граеш, што ў нас ногі проста самі ходзяць... Грай!..

А музыка ім на тое:

— Мае гранне вы ўжо пачулі і нават натанцаваліся ўдосыт, а я вашых грошыкаў на вочы не бачыў і ў руках сваіх не трымаў.

Зняў ён шапку і перад сабою на падлогу паклаў.

Падскочылі тут да яго распаленыя танцамі панічы, выхопліваюць са сваіх кішэняў кашалькі, сыплюць, не лічачы, залатыя чырвонцы ў музыкаву шапку ды просяць:

— Грай! Грай! Грай жа!..

Зарадаваўся войшкавец, такое багацце каля сваіх ног бачачы. Схапіў ён скрыпку ды смык і зноў хацеў урэзаць тую шалёную польку-трасуху. Ажно чуе — недзе певень закукарэкаў.

На той голас усё тут зашумела-загуло. Зніклі панічы з паненкамі. Расплыўся, бы ранішні туман, палац. Глядзіць скрыпач: сядзіць ён на купіне пасярод самай топкай багны, што непадалёк Нарвы прасціраецца. Побач у жарале тоне яго шапка. Кінуўся ён да яе, каб чырвонцы ратаваць, а там замест золата — поўна іржавай балотнай руды. Тут і хмель у яго з галавы выскачыў. Глянуў ён сумным вокам на дрыгву ды і давай хутчэй з яе выбірацца. Чаго добрага, яшчэ людзі звочаць, куды яго нячыстая сіла завалакла.

**М. Гайдук**

**Ю. Свірка**

## МІХАСЁВА ПЯЦЁРКА

Сёння выбег ён са школы
Урачысты і вясёлы.

Не ідзе — імчыць дадому
Сцежкай роўнай і знаёмай.

Заглядае сонца ў вочы,
Падзяліць з ім радасць хоча.

Ранец быў заўсёды важкі,
А сягоння ён не цяжкі.

То на ўзгорак, то з узгорка —
Лёгка крочыцца з пяцёркай.

**М. Янчанка**

## БРУСНІЦЫ

Між сосен пявучых і стромкіх
Чакае нас казачны стол.
Густыя ружовыя гронкі
Усыпалі жнівеньскі дол.

Сасновы задумлівы пошум,
Дні цёплай, ласкавай пары...
Збіраем, збіраем у кошык
Мы шчодрага лета дары.





© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

**Алесь Пальчэўскі**

# Кірыкаў сябар

Вечарам трактарыст Мірон, ідучы з поля, убачыў на сцяжынцы шчаня.

Пачуўшы чалавечыя крокі, сабачка жаласна заскуголіў. Мірон нагнуўся і пагладзіў яго. У адказ на ласку шчаня лізнула раз, другі трактарысту руку. Мірон падняў шчаня, прытуліў да грудзей і пайшоў далей. Сагрэўшыся на руках чалавека, сабачка перастаў скавытаць і нават задрамаў.

Кірык ужо спаў, калі бацька вярнуўся з работы, а маці не вельмі ласкава сустрэла мужа з такой знаходкай.

— Навошта мне гэты клопат! — сказала яна сярдзіта.

— А што было рабіць? — развёў рукамі Мірон. — Не пакідаць жа на згубу жывое стварэнне ў чыстым полі. А пра клопат не бядуй. Паглядзіш, як зарадуецца Кірык заўтра.

І Мірон не памыліўся. Хлопчык аж не знаходзіў сабе месца ад радасці. Ён першы і назваў шчаня Лыскам. Ні бацька, ні маці не думалі яшчэ, як яны будуць клікаць сабачку, а Кірык пагладзіў шчаня і пяшчотным голасам сказаў:

— Лысачка мой, харошанькі мой! Ты і не ведаеш, што ў цябе тут лысінка, — пачухаў ён шчаня каля вуха. — Мы падружымся з табою...

Лыска зірнуў Кірыку ў вочы, завіляў хвастом і, нібы зразумеўшы хлопчыкаву гаворку, радасна завішчаў. Кірык адліў у сподачак малака са свае шклянкі і тыцнуў сабачку пысай у сырадой.

— Еш, каб вялікі рос.

Сабачка пасмакаваў, аблізнуўся і ўзяўся за яду. Прысеўшы на кукішкі, Кірык глядзеў, як шчаня тоненькім язычком з прагнасцю хлебча малако.

За два-тры дні Лыска прывык да новага сябра і, смешна перавальваючыся, бегаў усюды следам за Кірыкам.

Рос Лыска вельмі хутка. Гэта быў не які-небудзь пародзісты сабака, а самы звычайны дваровы. Неўзабаве Мірон зрабіў за хатай будку, і Лыска атабарыўся жыць там.

Бывала, абы пачуўся на двары Кірыкаў голас, ён куляй вылятаў з будкі, каб зірнуць, ці не вынес хлапчук чаго паласавацца. Рэдка выходзіў Кірык з пустымі рукамі на ганак: то хлеба лустачку вынесе, то вараную бульбіну, а то і кавалачак мяса. За ўсё быў удзячны Лыска, а за костачкі найбольш. На ўсё быў гатовы для хлопчыка за іх. Кірык зразумеў Лыскаву слабасць і прывучыў яго за косці падаваць рэчы. Кіне кіёк і гукне:

— Лыска, падай!

Спачатку сабака не ведаў, што трэба рабіць: хапаў кіёчак у зубы і бегаў з ім па двары. Тады Кірык клікаў Лыску да сябе, адбіраў кіёк і даваў костачку. Так і прывучыў Лыску слухацца.

Пасля таго, як Лыска адолеў Кірыкаву навуку падаваць кіёчкі, трэскі, хлапчук навучыў яго насіць парожні кошык. Скажа маці Кірыку схадзіць па бульбу ў склеп або трэсак прынесці на падпалку, а ён адразу:

— Лыска, бяры кошык.

Возьме сабака кошык у зубы і нясе перад сабою. Нязручна, праў-



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

да, ды што зробіш. А то выправіць маці сына занесці на поле абед бацьку, зноў яны ўдвух ідуць. Лыска нясе за матузок торбачку з хлебам, а Кірык — спарышы з гарачай стравай.

Каля двух гадоў мінула з таго часу, як Мірон прынёс з поля шчаня. У вялікага і грознага сабаку вырас Лыска. Ні на крок не адыходзіў ён цяпер ад Кірыка. Толькі ў тую раніцу, як хлопчык першы раз пайшоў у школу, Лыска здрадзіў яму. Хоць Кірык перад гэтым і гаварыў Лыску, каб ён быў гатовы заўтра праводзіць яго, але сабака, мабыць, не ўсё зразумеў з хлопчыкавай гаворкі. Мірон ішоў рана на працу, і сабака пабег за гаспадаром.



Давялося хлопчыку ісці ў школу аднаму. Затое колькі папашукаў Лыска яго, калі, вярнуўшыся з поля, не застаў дома. У хаце, у сенцах, па ўсіх закутках на двары вылазіў, сляды нюхаў — і ўсё дарэмна.

— Няма твайго сябра, няма. Ён у школу пайшоў... Вунь туды, — паказала гаспадыня ў бок школы.

Лыска ўважліва пазіраў ёй у твар, пільна слухаў тлумачэнні, але ўсё ж не мог зразумець, куды падзеўся Кірык. Засмучаны выйшаў на вуліцу, лёг каля варот, паклаў на выцягнутыя лапы галаву і моўчкі паглядваў то ў адзін канец вуліцы, то ў другі: быць не можа, павінен жа Кірык аднекуль з'явіцца.

Так праляжаў Лыска да абеду. Заўважыўшы Кірыка здалёк, у купцы гаманлівых вучняў, ён што меў сілы памчаўся насустрач. Скокнуў, ашчарэпіў лапамі хлопчыка за плечы і хацеў лізнуць ад радасці ў шчаку. Кірык адхінуўся. Тады сабака забег збоку. Каб адчапіцца, хлопчык даў яму школьны партфель і скамандаваў:

— Нясі.

Сабака ўхапіўся за ручку партфеля і важна пайшоў наперадзе.

Назаўтра Лыска нікуды не адлучаўся. Лёг на ганку і цярпліва чакаў, калі выйдзе Кірык з хаты, каб праводзіць яго ў школу. Як толькі рыпнулі дзверы ў сенцы, Лыска ўсхапіўся і стаў на парозе перад хлопчыкам, патрабуючы, каб той даў яму свой партфель.

І так штодня: правядзе Лыска Кірыка да самай школы, пасядзіць трошкі каля брамы і бяжыць назад. А потым сустракае далёка ад хаты.

Але аднаго разу надвячоркам Лыска прыскакаў дадому на трох нагах. Хто перабіў яго чацвертую — невядома. Ёсць яшчэ такія людзі, што кідаюць у сабак каменнямі ці палкамі, хоць тыя ніякае шкоды ім не робяць.

Лыска моўчкі залез у будку і жаласна паглядаў на Кірыка.

(Працяг на стар. 8)



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020




## СТАРАЖЫТНЫЯ ВЫНАХОДНІЦТВЫ

**Егіпцяне.**

Пяць тысяч гадоў назад у даліне ракі Ніл утварылася адна з першых на зямлі дзяржаў — Егіпет.

Старажытныя егіпцяне былі добрымі матэматыкамі і інжынерамі. Гэта яны былі стваральнікамі егіпецкіх пірамід — велізарных грабніц егіпецкіх цароў — фараонаў. Самая вялікая з пірамід — піраміда Хеопса. Яна вышэйшая, чым саракапавярховы дом. Нават цяпер пабудаваць яе было б нялёгка, не гаворачы ўжо пра старажытныя часы.

Усе піраміды маюць зусім аднолькавую прафільную форму. І стаяць яны не абы-як: адзін бок піраміды заўсёды глядзіць дакладна на ўсход, іншыя — на поўдзень, захад і поўнач.

Аб цудоўных будоўлях Егіпта можна расказваць без канца. Некаторыя таямніцы егіпецкіх будаўнікоў не разгаданы яшчэ і сёння.

Апрача будоўляў да нас дайшлі і многія запіскі і нават вялікія рукапісы, зробленыя егіпецкімі вучонымі. Частка іх выпісана на каменнях, але большая частка напісана на папірусе — моцнай паперы, якую егіпцяне рабілі з трыснягу.

Некаторыя са знойдзеных рукапісаў прысвечаны матэматыцы. Самы старажытны матэматычны рукапіс напісаны быў каля 4000 гадоў назад. Гэта нешта накшталт задачніка. Некаторыя задачы з гэтага падручніка здаліся б нялёгкімі нават сённяшняму вучню сярэдняй школы.

Вучоныя лічаць таксама, што і геаметрыя як навука зарадзілася ў старажытных егіпцян. Ім пасля кожнага разліву Ніла трэба было перамерваць участкі поля.

Як і чым мералі зямлю старажытныя егіпцяне?

Галоўнай мерай даўжыні ў егіпцян быў локаць. Локаць дзяліўся на сем „далоняў“, „далонь“ — на чатыры „пальцы“. Як і многія іншыя народы, у якасці мерак егіпцяне выкарыстоўвалі часткі людскога цела. Але людзі бываюць рознага ўзросту, і локці ў іх таксама розныя. Егіпцяне, вядома, гэта разумелі. Таму, каб памеры былі дакладнымі, яны прыдумалі сярэднія агульныя велічыні, назваўшы іх мерамі: локаць, далонь і палец.

А плошчу поля, як яе памераць?

Калі ўчастак квадратны або прамавугольны — дык справа простая. Трэба памераць даўжыню і шырыню поля, а потым гэтыя лікі перамножыць. Але ўчасткі могуць мець розную форму. Не кожны ўчастак можна падзяліць на прамавугольнікі. А вось на трохвугольнікі можна падзяліць кожны ўчастак. Іменна таму ў геаметрыі найбольш месца прысвечана вывучэнню трохвугольнікаў.

Егіпцяне навучыліся таксама аблічваць і плошчу кола.

**(Працяг будзе)**

**Паводле І. Дэпмана**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# У БЕЛЬСКАЙ ГМІННАЙ

1 верасня ў гміннай школе ў Бельску адбылося ўрачыстае адкрыццё новага навучальнага года.

Заняткі ў школе ішлі ўжо ад 20 жніўня. Гэта дало магчымасць вучням адпаведна падрыхтаваць урачыстасці. Асабліва багатай была мастацкая частка.

У школе ўжо некалькі год добра працуе мастацкі калектыў — вялікі хор, група мандалiністаў і акардэаністаў, танцавальны калектыў. Гарцэры школы стварылі таксама сваю мастацкую групу пад назвай „Пламенні“, якая ўжо добра вядома не толькі ў Бельску. „Пламенні“ выступалі і ў Беластоку. Кіруе мастацкім калектывам у школе настаўніца Станіслава Кажанеўская. Яна ж апякуецца і гарцэрскімі дружынамі школы.

Пры школе працуе святліца са сталоўкай. Так павінна быць, бо большасць вучняў даязджае на заняткі. А гэта значыць, што яны павінны мець месца, дзе чакаць на ад'езд дадому і раніцай — на ўрокі. Тут у святліцы дзеці атрымліваюць абед, а ў вольны час адпачываюць. Таму з вялікай ахвотай яны займаюцца ў вучнёўскім тэатры лялек, які ўжо можа пахваліцца пастаноўкай некалькіх п'ес і ўдзелам у міжшкольных конкурсах.

Цяпер, з надыходам восені, вучні бельскай школы дапамагаюць сваім бацькам па гаспадарцы. Але не толькі. Вось, напрыклад, ужо вучні школы ў Плёсках, якая з'яўляецца філіялам гміннай школы ў Бельску, капалі бульбу ў мясцовым сельскагаспадарчым гуртку.





**Група гарцэраў на рэпетыцыі з настаўніцай С. Кажанеўскай.**
**Фота Я. Чэрнякевіч.**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

← —

А ў мінулым годзе вучні бельскай гміннай перабіралі і палолі бульбу ў спулдзельні сельгасгурткоў, дапамагалі ва ўпарадкаванні гарадской зелені, выконвалі шэраг іншых прац на карысць школы і грамадства. Яшчэ і ў гэтым годзе вучні будуць дапамагаць у сваіх школах парадкаваць падворкі, напраўляць, маляваць школьныя платы і іншае.

Восень — гэта таксама час на добры пачатак вучобы. Нездарма разумныя людзі кажуць, што хто добра пачне, той добра і скончыць. Дык варта пастарацца, каб пачатак быў сапраўды добры.

**(я.ч.)**

## Адгадайка




**Падбярыце ключ да кожнага замка.**

*(Працяг са стар. 5)*

## Кірыка ў сябар

Хлопчык некалькі разоў падыходзіў да яго, гладзіў, прыносіў есці. Усю ноч не вылазіў сабака з будкі, а раніцай, як падышоў час ісці Кірыку ў школу, ён прыскакаў на ганак. Маці выйшла па ваду і паклікала Лыску ў хату. Убачыўшы, што Кірык сабраўся ў школу, сабака занепакоіўся і стаў ля дзвярэй.

— Сходзіць твой сябар і адзін сёння, — павярнулася гаспадыня да Лыскі. — Куды табе з хворай нагой чыкільгаць? Ідзі падсілкуйся лепш.

Яна паставіла чыгунок з ежай, але сабака зірнуў толькі, а з месца не крануўся. Маці ўзяла сабаку за ашыйнік, сілком адцягнула ад парога і выпусціла Кірыка за дзверы.

На другім уроку вучань, што сядзеў з Кірыкам за адной партай, ціха шапнуў яму:

— Кірык, твой Лыска на ганку.

— Уцёк-такі... — пакруціў галавой хлопчык.

На перапынку Кірык першы выбег на двор, каб адправіць Лыску дахаты. Але колькі ні ўгаворваў ён — і просьбаю і грозьбаю — сабака не слухаўся. Лыска цярпліва дачакаўся, пакуль скончыліся заняткі ў школе, узяў у зубы партфель з Кірыкавых рук, хоць той і не хацеў даваць, і паскакаў на трох нагах дадому.

— Вось гэта дружба! — дзівіліся людзі. — Нават і хворы памятае пра сябра.

**Адрас рэдакцыі: „Зорка", 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020